ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXIII, Нр. 323 Нью Ёрк — лістапад — 1984 — November — New York Vol. XXXIII, № 323

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ПЕРАМОГА

Бальшыня галасоў, якою Прэзыдэнт Рэйган быў перавыбраны сёлета на другі чатырохгадовы тэрмін у Белым Доме, — гістарычная. Толькі за Прэзыдэнта Ніксана ў 1972 г., гэтак як за Рэйгана сёлета, выказаліся аж 49 штатаў. Электаральных-жа галасоў Рэйган атрымаў больш як Ніксан у 1972 г. або Рузвэльт у 1936 годзе.

Газэта „Беларус", выказваючыся ў папярэднім нумары за кандыдатуру Рэйгана-Буша, адзначыла куды грунтаўнейшае як у дэмакратаў разуменьне Рэйганавай адміністрацыяй небясьпекі савецкае глабальнае экспаньсіі ды савецкага таталітарнага ладу. Мы думаем, што гэтае разуменьне, гэтая рэалістычная ацэна Вашынгтонам міжнароднага палажэньня стане цяпер у добрай прыгодзе справе наладжаньня таго „канструктыўнага дыялёгу" з Савецкім Саюзам, пра патрэбу якога пасьля амэрыканскіх выбараў пачалі гаварыць і Белы Дом і Крэмль.

На наступны дзень па выбарах, 7-га лістапада, Прэзыдэнт Рэйган сказаў на прэсканфэрэнцыі, што ягоны кабінэт аднадушны ў сваёй гатовасьці да перамоваў з Савецкім Саюзам аб кантролі ўзбраеньняў. Я думаю, сказаў Прэзыдэнт, што „Савецкі Саюз далучыцца да нашых намаганьняў, каб наладзіць перамовы".

На чым базуецца гэткае прадказваньне? Прэзыдэнт Рэйган уважае, што Крэмль пойдзе на перамовы, бо савецкая эканоміка ня вытрымвае спаборніцтва з Амэрыкай у разбудоўваньні зброі. Вашынгтон разьлічвае, што Масква пабачыць нарэшце „вартасьць здаровага розуму" ды згодзіцца пайсьці на абніжэньне ўзроўню ўзбраеньняў, якімі дзьве звышдзяржавы ўзаемна сябе адстрашваюць ад магчымага збройнага канфлікту.

Разьлік на тое, што савецкая эканоміка можа ня вытрымаць выперадкаў у нарошчваньні зброі, мае пад сабой пэўны рэальны грунт — савецкая эканамічная база ўдвая меншая за амэрыканскую. Працэнт выдаткаў на абарону з амэрыканскага боку, груба кажучы, вымагае падвойнага працэнту з савецкага. У гэтай формуле, аднак, ня ўлічваецца палітычна-маральны фактар, гэта значыцца гатовасьць савецкага рэжыму йсьці на ахвяры ў разбудоўваньні ўзбраеньняў ды пашыраньні свае ўлады па сьвеце коштам далейшага трыманьня цывільнага сэктару эканомікі на галоднай норме. А савецкая аднапартыйная сыстэма зь ейнай арміяй нутраное паліцыі, суровай цэнзурай і сеткай турмаў ды лягероў прымусовае працы мае, як паказала гісторыя, вялікія магчымасьці пушчаць народнае дабро на замежныя авантуры.

Трэба спадзявацца, што адміністрацыя Прэзыдэнта Рэйгана, шукаючы шляхоў да паразуменьня з Савецкім Саюзам, будзе ўлічваць усе элемэнты сытуацыі. Трэба спадзявацца таксама, што ў сваім другім прэзыдэнцкім тэрміне Прэзыдэнт Рэйган здолее дасягнуць тое, пра што ён гаварыў на працягу сёлетняга году ў ходзе перавыбарнае кампаніі: рэзка скараціць узровень узбраеньняў, замацаваць стабільнасьць міжнароднага стану, пашырыць магчымасьці свабодных кантактаў паміж грамадзянамі Амэрыкі й Савецкага Саюзу ды ўзмоцніць шанцы дэмакратыі ў сьвеце.



Прэзыдэнт Рональд Рэйган і Віцэ-Прэзыдэнт Джордж Буш

## СУСТРЭЧА З ПРЭЗЫДЭНТАМ РЭЙГАНАМ

Прэзыдэнт ЗША Рональд Рэйган быў гасьцём этнічных групаў штату Мічыган 10-га кастрычніка сёлета. Банкет у гонар Прэзыдэнта быў наладжаны Рэспубліканскай Радай Этнічнае Спадчыны штату Мічыган у Украінскім Культурным Цэнтры (УКЦ) у горадзе Ўорэне з удзелам прадстаўнікоў усіх этнічных групаў штату. Сярод 650-х удзельнікаў сустрэчы была й група 10-х Беларусаў, шмат хто зь іх у беларускай нацыянальнай вопратцы..

У сваім прывітальным слове галава Сусьветнага Ўкраінскага Вызвольнага Фронту сп. Багдан Федарак, ён-жа старшыня УКЦ, падкрэсьліў прыхільнае стаўленьне Прэзыдэнта Рэйгана і ягонае адміністрацыі да паняволеных камунізмам народаў ды іхнага змаганьня за свае нацыянальныя правы. Гэтае прыхільнае стаўленьне, сказаў прамоўца, Прэзыдэнт Рэйган выявіў у сваіх праклямацыях Тыдня Паняволеных Народаў, а таксама сваёй абаронаю палітычных вязьняў ды іншадумцаў; рэспубліканская адміністрацыя разбудоўвае радыёстанцыі „Голас Амэрыкі", „Свабода", „Вольная Эўропа", радыё-Марты, якія даюць духовае падтрыманьне народам за зялезнай заслонай.

Наступна каардынатар мясцовага Рэспубліканскага аддзелу этнічных выбаршчыкаў сп. Фрэнк Стэла прадставіў аўдыторыі Прэзыдэнта Рэйгана, сустрэтага працяглымі воплескамі.

У сваёй прамове Прэзыдэнт Рэйган нагадаў, што ў Амэрыцы жывуць людзі самых розных расаў, а амэрыканскі народ мае ў сваім складзе блізу кожную этнічную й рэлігійную групу. Усе Амэрыканцы, сказаў Прэзыдэнт, вельмі цэняць сваю спадчыну, цэняць адзінства народу ды адчуваюць глыбокую любасьць да свабоды. Наш абавязак, сказаў Прэзыдэнт Рэйган, утрымаць Злучаныя Штаты краінай вольнай і дынамічнай, краінай неабмежаных магчымасьцяў для ўсіх ейных жыхароў.

Прэзыдэнт сказаў, што ягоная адміністрацыя дала краіне „новы пачатак", моцны штуршок да эканамічна-палітычнага адраджэньня. Каб праграму гэтага адраджэньня можна было праводзіць далей, Амэрыка патрабуе й надалей добрых ціпэраў, аб чым і пастановяць людзі ў выбарах 6-га лістапада.

Рэспубліканцы, сказаў Прэзыдэнт Рэйган, хочуць мець моцную Амэрыку, якая павінна выйсьці на арэну ў наступнае стагодзьдзе з самаўпэўненасьцяй і аптымізмам.

У вадрознасьць ад палітыкі папярэдняе адміністрацыі, сказаў Прэзыдэнт Рэйган, галоўным пастулятам ягонага ўраду было забясьпечыць Амэрыцы абаронную моц. „І за гэта, — сказаў Прэзыдэнт, — я не выбачаюся перад нікім. Мы таксама не выбачаемся перад тыранамі за амэрыканскі спосаб жыцьця, ані таксама перад нутранымі крытыкамі, якія бачаць перш-наперш віну за міжнародныя непаладкі ў Амэрыцы".

Прэзыдэнт сказаў, што Злучаныя Штаты вядуць перамовы зь ідэйнымі праціўнікамі з пазыцыі сілы, і ня шукаюць ваеннага канфлікту зь нікім.

Зварачаючыся да слухачоў, як да прадстаўнікоў этнічных групаў, Прэзыдэнт Рэйган сказаў:„Вы ўвасабляеце амэрыканскае лятуценьне. Сваёю цяжкою ,адданаю працаю й сілаю волі вы збудавалі добрае жыцьцё сабе й сваім блізкім, вы ўнесьлі вялікі ўклад у культуру й эканоміку Злучаных Штатаў — і ў гэтым існасьць Амэрыкі".

Прэзыдэнт Рэйган выказаў надзею, што ён можа разьлічваць на пэўнае падтрыманьне з боку этнічных групаў у выбарах, каб на працягу наступных чатырох гадоў зрабіць усё магчымае для загарантаваньня новаму пакаленьню Амэрыканцаў бясьпечнай і квітнеючай Амэрыкі.

Прамова Прэзыдэнта была часта перапыняная воплескамі энтузіястычнай аўдыторыі.

Затым быў дадзены канцэртны паказ, за ходам якога высокі госьць сачыў зь вялікай зацікаўленасьцяй.

Прэзыдэнт правёў дзьве гадзіны сярод удзельнікаў сустрэчы. Подыюм быў удэкараваны нацыянальнымі сьцягамі, між якіх красаваўся і наш бел-чырвона-белы сьцяг.

Прадстаўнічка беларускае групы дала пасьля кароткае інтэрвію рэпартэру тэлевізійнае станцыі Сы-Бі-эС (канал 2), што было пададзенае ў тэлевізійных навінах.

Візыт Прэзыдэнта Рэйгана падняў моцна на духу ўсе нацыянальныя групы, якія бралі вельмі актыўны ўдзел у сёлетняй кампаніі перавыбараў, каб запэўніць перамогу рэспубліканцам у Белым Доме ды ў Кангрэсе ЗША.

В. П.

## ПРЫВАТНЫ СЭКТАР У САВЕЦКАЙ ЭКАНОМІЦЫ

Найслабейшае месца сацыялістычнае эканомікі, як яна практыкуецца ў Савецкім Саюзе, — гэта тавары шырокага ўжытку й бытавыя паслугі. На адно й другое пануе вечны дэфіцыт, што спараджае спэкуляцыю й чорны рынак. Усходня-эўрапейскія краіны савецкага блёку, асабліва Вэнгрыя, даўно ўжо экспэрымэнтуюць з элемэнтамі вольнага рынку ў галіне вытворчасьці прадуктаў харчаваньня, у гандлі й бытавым абслугоўваньні жыхарства. Кітай цяпер узяўся таксама праводзіць шырокую рэформу, скіраваную на актывізацыю прыватнае ініцыятывы ў галіне лёгкай прамысловасьці, гандлю й абслугі. Якія-ж пэрспэктывы з гэтага гледзішча ў Савецкім Саюзе, дзе адзін за адным зьмяніліся нядаўна два вярхоўныя кіраўнікі кампартыі?

Тэарэтычная думка для актывізацыі прыватнага сэктару эканомікі ў Савецкім Саюзе дасьпела. Адзін зь вядучых савецкіх эканамістаў — акадэмік Аганбэгян, дырэктар Інстытуту эканомікі й арганізацыі прамысловай вытворчасьці Сібірскага аддзяленьня АН СССР, 12 сьнежня летась выступіў у газэце „Труд" з артыкулам, у якім даводзіў карысьць пашырэньня прыватнай дзейнасьці грамадзянаў у сфэры бытавых паслугаў і гандлю. Акадэмік-эканаміст канкрэтна прапанаваў дазволіць, прыкладам, уладальнікам прыватных таксі рабіць пагадненьні з таксапаркамі на перавоз пасажыраў, здаваць у арэнду грамадзянам невялікія магазынчыкі, пункты рамонту бытавой тэхнікі ды гэтак далей. Пры гэтым вучоны агаворваўся, што ўся гэткая прыватная дзейнасьць павінна была-б праводзіцца пад строгім дзяржаўным кантролем.

Выступленьне Аганбэгяна ў пытаньні, якое цікавіць шырокія колы савецкага грамадзтва, не адзінае. Падобныя прапановы падаваліся й раней. Гэтак, у сьнежаньскім 52-м нумары „Литературной Газеты" за 1981 год кандыдат эканамічных навукаў Генадзь Лісічкін пытаўся: калі асабістая праца на прысядзібнай дзялянцы або ў садовым таварыстве дазволеная, дык чаму-ж забароненыя ўсе іншыя магчымыя варыянты прыватнае ініцыятывы? Пры гэтым Лісічкін спасылаўся на практыку ў Усходняй Нямеччыне, Вэнгрыі, Чэхаславаччыне, дзе шляхом значнага пашырэньня прыватнага сэктару ўдалося ладна скараціць дэфіцыт бытавых паслугаў.

Падобна разважае й загадчык сэктару Інстытуту эканомікі сусьветнай сацыялістычнай сыстэмы АН СССР акадэмік Амбарцумаў. У газэце „Советская Россия" за 12 красавіка 1981 г. ён сьмела пісаў, што НЭП, абвешчаны ў сваім часе Ленінам — гэта было раскаваньне важнейшых падважнікаў сацыялістычнага будаўніцтва: матар'яльных рэсурсаў, калектыўнай і прыватнай ініцыятывы. Амбарцумаў заклікаў рэзка пашырыць і ўзмоцніць дзейнасьць саматужна-рамесных промыслаў, спасылаючыся на артыкул 17-ты Канстытуцыі СССР. Такіх заклікаў у савецкім пэрыядычным друку рабілася шмат і з боку вучоных-эканамістаў і з боку чытачоў.

Словам, карысьць пашырэньня прыватнага сэктару пры сучасным дэфіцыце паслугаў, нястачы тавараў шырокага ўжытку й прадуктаў харчаваньня зусім відавочная. Як кажуць, і вожыку зразумела.

Тым ня менш, нажаль, ніякіх зрухаў у гэтым кірунку пакуль што ня відаць. За выняткам, бадай, таго толькі, што сталася лягчэй гарадзкому жыхару атрымаць колькі сотак зямлі на прыватны агарод — гэтак дае сябе адчуваць нястача харчоў.

Што-ж стаіць на перашкодзе да разьвіцьця прыватнае ініцыятывы ў Савецкім Саюзе? Для адказу на гэтае пытаньне давайце паглядзім, як ставіцца да гэтае ініцыятывы савецкае заканадаўства.

Артыкул 17 канстытуцыі СССР (ён-жа 17 і ў канстытуцыі БССР) устанаўляе: „У СССР у адпаведнасьці з законам дапушчаецца індывідуальная працоўная дзейнасьць у сфэры саматужна-рамесных промыслаў, сельскае гаспадаркі, бытавога абслугоўваньня насельніцтва, а таксама іншыя віды працоўнай дзейнасьці, заснаваныя выключна

(Заканчэньне на б. 2-й)

## ДА „ПАЛІТЫЧНАГА ПАРТРЭТУ" ЗША І СССР

Часапіс „Коммунист Белоруссии" ў сваім жнівеньскім сёлетнім нумары зьмясьціў некаторыя „штрыхі да палітычнага партрэту" Злучаных Штатаў Амэрыкі беларускага паэта Анатоля Вярцінскага. Гэтак, як Рыгор Барадулін сёлета, Анатоль Вярцінскі сем гадоў таму быў членам дэлегацыі БССР на Генэральную Асамблею ААН, наведаў, апрача Нью Ёрку й Глен Кову, Вашынгтон, Бостан ды іншыя мясьціны Амэрыкі. Вярнуўшыся з-за акіяну дамоў, Вярцінскі яшчэ ўсё дзеліцца із сваймі суайчыньнікамі ўражаньнямі ад амэрыканскага падарожжа, як гэта відаць зь сёлетняга жнівеньскага нумару органу ЦК кампартыі Беларусі.

У „Коммунисте Белоруссии" зьмешчаны ўрывак з кнігі Вярцінскага „Ньюёркская сырэна", што рыхтуецца да друку ў выдавецтве „Мастацкая літаратура".

Вось уражаньне Вярцінскага ад Вашынгтону:

„Мазаіка вашынгтонскіх абразкоў . . . Пры выхадзе зь Белага Дому бачым дэманстрантаў: стаіць высокі мажны мужчына з плякатам на грудзіне ,Чыкага супраць нэўтроннай бомбы!', побач жанчына зь дзяўчынкаю, відавочна, з дачкою, у кожнае лёзунг: ,Настаўнікі супраць узбраеньняў! Грошы не на бомбу, а на работы!' Дэманстрацыя, як бачыце, нешматлікая і з самадзейным ухілам, але якраз гэтая акалічнасьць па-свойму адцяняе заклапочанасьць простага Амэрыканца".

А цяпер, ведаючы, што і ў Савецкім Саюзе разбудоўваюцца нэўтронныя бомбы і вялізарныя сумы грошай выдаюцца таксама на ўзбраеньні, паспрабуйма, адваротным парадкам, уявіць сабе падобны „штрых" да палітычнага партрэту Савецкага Саюзу. Ідучы назіркам за Анатолем Вярцінскім, у нас выйдзе нешта наўзор вось гэткага:

„Мазаіка маскоўскіх абразкоў . . . Пры выхадзе з Крамля бачыш дэманстрантаў: стаіць высокі мажны мужчына з плякатам на грудзіне ,Мінск супраць нэўтроннае бомбы!', побач жанчына зь дзяўчынкай, відавочна, з дачкою, у кожнае лёзунг: ,Настаўнікі супраць узбраеньняў! Грошы не на бомбу, а на работы!' Дэманстрацыя, як бачыце нешматлікая і з самадзейным ухілам, але якраз гэтая акалічнасьць па-свойму адцяняе заклапочанасьць простага савецкага чалавека".

Хіба будзе лішнім і пытацца, ці магчымы гэткі „штрых" да палітычнага партрэту Савецкага Саюзу. А само гэткае пытаньне, пастаўленае ў Савецкім Саюзе, будзе афіцыйна кваліфікаванае, як найзласьнейшая правакацыя, паклёп на савецкі палітычна-дзяржаўны лад. І не таму, што ў Савецкім Саюзе не разбудоўваюцца нэўтронныя бомбы. Бомбаў гэтых, як ведаем, ня вылічыць паабапал лініі падзелу паміж Захадам і Ўсходам. А таксама й не таму, што ў Савецкім Саюзе няма настаўнікаў, якім нестае грошай (праглынутых бомбай) на школьныя памешканьні, падручнікі, заработкавую плату ды іншыя пільныя патрэбы. Гаварыць пра гэта, а пагатоў дэманстраваць супраць сваіх узбраеньняў савецкім настаўнікам і не настаўнікам забаронена ў прынцыпе. Як гэта дэманстраваць супраць свайго ўраду, калі ўрад кажа, што савецкая ўлада — гэта ўлада народная, а народ-жа супраць сябе самога не дэманструе! Вось на гэткай сафістыцы й збудаваная савецкая сыстэма (якую вонкавы сьвет слушна заве таталітарнай); сыстэма, што ня церпіць ніякае гугаркі ў сябе ўнутры пра нутраныя супярэчнасьці; сыстэма, якая дазваляе дэманстраваць (і пісаць пра гэта) толькі супраць чужых бомбаў, тымчасам як свае ўзбраеньні разбудоўваюцца ў зацішку.

„Штрых" Анатоля Вярцінскага пра Амэрыку ў жнівенскім нумары часапісу „Коммунист Белоруссии" — гэта красамоўнае сьветчаньне на карысьць палітычнае свабоды ў Злучаных Штатах, бо толькі свабодныя людзі могуць дэманстраваць супраць свайго-ж ураду.

Арсень Загорны

## ДЗЕДАВІЧ

**(Гумарэска — аськепак жыцьця)**

**Прысьвячаю 70-годзьдзю майго калішняга сябра, паэта С.**

— Ці ня маеш ты, часам, якіх-небудзь вестак пра нашага земляка Лявона? — папытаўся Юрка ў Алеся.

Сябры сядзелі на раскладных крэслах пад разложыстым клёнам, што рос за Алесевым домам, і цешыліся цяплінёю „бабінага лета".

— Не, браце, ніякіх вестак пра гэтага дзедавіча я ня маю, — адказаў Алесь.

— Дзедавіча?! — зьдзівіўся Юрка. — Што гэта за слова? Яго-ж няма ў „Тлумачальным слоўніку беларускай мовы". Што яно значыць?

— Вось таму, што гэтага слова няма ў тлумачальным слоўніку, я сам прыдумаў яго, — адказаў Алесь. — Значыць-жа яно: сын свайго дзеда.

— А гэта яшчэ што за „сын свайго дзеда"? — яшчэ больш зьдзівіўся Юрка. — Дзе ты яго выкапаў?

— Ня „выкапаў", а вычытаў у часапісе „Полымя" за лістапад 1975 году, дзе выдрукаваная частка кнігі Васіля Віткі „Дзеці й мы". Там ёсьць абразок „Сын свайго дзеда". У гэтым абразку ўнук Віткавага сябра, такога-ж, як і Вітка, дзеда, на пытаньне пісьменьніка адказвае: „Я — сын свайго дзеда", на што Вітка зназначае: „Рэдкі выпадак, але бывае".

— Малы, можа, хочучы паказаць любасьць да свайго дзеда, але, ня ведаючы, як гэта выказаць словамі, сказаў абы што. А Вітка падхапіў гэта як нешта арыгінальнае, — заспрачаўся Юрка. — Як гэта нехта можа быць „сынам свайго дзеда", а ня сынам свайго бацькі? Хто-б ні быў бацька малога: малады хлапец, ці стары дзед, ён усёроўна бацька малога, а ня дзед.

— А ты не дапушчаеш, што можа быць „рэдкі выпадак"? — папытаўся сваім парадкам Алесь.

— Які там яшчэ „рэдкі выпадак"? — засьмяяўся Юрка. — Хочаш расказаць мне казку?

— Ня казку, а быль, „рэдкі выпадак", які здарыўся ў сям'і Лявонавых бацькоў, — адказаў Алесь.

— Добра, расказвай! — згадзіўся Юрка..

І Алесь пачаў разказваць:

„Ты, пэўна, ведаеш, што ў 1913 годзе шмат хто зь Беларусаў быў завэрбаваўся ў Амэрыку на заработкі. У ліку гэтых завэрбаваных быў і Рыгор Шпак, малады хлапец з нашай вёскі. Як табе ведама, ня пошукі прыгодаў гналі Беларусаў у Амэрыку, а жаданьне зарабіць крыху даляраў, каб палепшыць гаспадарку. А гаспадарка Рыгоравага бацькі мела ўсяго чацьвярціну надзелу. Дык думалася, што за амэрыканскія заработкі можна будзе прыкупіць зямлі й жыць крыху заможней.

„Ад'езд групы завэрбаваных, у якую ўваходзіў і Рыгор Шпак, быў прызначаны на Сёмуху. На Сёмуху-ж было прызначанае й вясельле Рыгора з Палашкаю. Дакладна ня ведаю, што было задумана раней: жаніцьба Рыгорава, ці ягоны ад'езд у Амэрыку. Толькі так трапілася, што гэтыя дзьве падзеі супалі ў часе, і ні адное, ні другое нельга было адкласьці або перанесьці на іншую дату.

„Вясельле Рыгорава адбылося, як і належыцца. Але, адчуваючы хуткую ростань зь сям'ёю й сябрамі, Рыгор стараўся нагуляцца на сваім вясельлі, як перад рэкрутчынай. І дагуляўся да таго, што ня меў магчымасьці пазнаць Палашку, як жонку: не давялося, беднаму, пацешыцца ня толькі мядовым месяцам, навет мядоваю першаю ночкаю. Так і пакінуў Рыгор сваю маладую жонку Палашку дзяўчынаю ў бацькавай хаце.

„Як жылося й зараблялася Рыгору ў Амэрыцы, многа ці мала ён там зарабіў, як доўга прабыў ён у тэй Амэрыцы, мне ня ведама. Аб гэтым больш ці менш, пэўна, ведалі вяскоўцы, якія цікавіліся гэтым. Нам-жа гэта ня так важна і ня так цікава. Цікавей тое, што адбылося ў Рыгоравай сям'і ў часе, калі яго ня было..

„Пакуль Рыгор мазоліўся і пацеў у Амэрыцы, ягоная жонка Палашка памагала ягоным бацьком весьці супольную гаспадарку. А была Палашка працавітая, старэнная й паслухмяная. Як і кожная вясковая жанчына, яна і жала, і прала, і ткала, і памагала сьвёкру досьвіткамі малаціць збожжа. Адным словам, была добраю нявесткаю. Гэтую ейную добрасць і не пакінуў бяз увагі сьвёкар, Рыгораў бацька Віктар. Яму, мабыць, зрабілася шкода, што нявестка, такая добрая дзяўчына, і выйшаўшы замуж застаецца бяз мужавых пяшчотаў.

„І вось аднойчы сьвёкар прыгалубіў нявестку. А потым ужо, мабыць, галубіліся яны часта, бо за год з гакам пасьля ейнага вясельля з Палашкай здарыўся „рэдкі выпадак": у кастрычніку наступнага году, адразу-ж пасьля Пакроў, яна нарадзіла сынка. У гэтым ня было-б нічога дзіўнога, каб ейны муж Рыгор не знаходзіўся ўвесь час ад самога вясельля ў Амэрыцы.

„А кожны выпадак — ці ён рэдкі выпадак, ці часты — у вёсцы тэма для гаворкі. Загаварыла вёска і пра гэты нязвычайны выпадак, дакладна вызначаючы бацьку дзіцяці. Недаспадобы было Віктару тое, што гаварыла вёска. Ён ведаў, што гэта ягоны „грэх", які неяк трэба прыхаваць перад сынам. І дадумаўся, як гэта зрабіць. Калі малога везьлі ў Слуцк хрысьціць, Віктар наказаў кумом, каб у Мэтрычную кнігу бацюшка запісаў, што Лявон (такое ймя прыдумалі для малога) — сын Палашкі й Рыгора, ейнага мужа.

„Вось гэткім парадкам запраўдны бацька Лявона стаўся паводля закону ягоным дзедам, а сам Лявон на самой рэчы аказаўся „сынам свайго дзеда". А я назваў яго „дзедавічам", — закончыў Алесь свой расказ.

Кастрычнік 1984 г.

**Янка Золак**

## „МЫ — БАГАТЫЯ ЛЮДЗІ"

**(Выкладаньне беларускае мовы ў школах БССР)**

У летніх нумарох навукова-пэдагагічнага часапісу „Народная асьвета", органу Міністэрства асьветы БССР, быў зьмешчаны даволі вялікі матар'ял у дапамогу выкладчыкам беларускае мовы. „Народная асьвета" рэкамэндуе настаўнікам: „На занятках, асабліва пры вывучэньні фанэтыкі й арфаэпіі (правілы літаратурнага вымаўленьня — рэд. „Б-са"), важна паказваць вучням мілагучнасьць беларускай мовы, яе мяккасьць, напеўнасьць, самабытнае гучаньне. (...) Вельмі важна навучыць дзяцей больш сьвядома й эфэктыўна карыстацца словам у маўленьні, пастаянна ўзбагачаць свой слоўнікавы запас, беражліва адносіцца да слова, да багацьцяў мовы". „Н.А.", 1984, № 8, б. 46).

У мэтадычных рэкамэндацыях да артыкулу А. Крывіцкага „Беларуская мова — нацыянальная мова беларускага народу" („Н. А." № 8) даецца парада „прапанаваць вучням заканспэктаваць, а потым падрыхтаваць вусныя паведамленьні" паводля артыкулу доктара філязофскіх навук У. М. Конана „Васілёк на роднай ніве", зьмешчанага ў „Чырвонай зьмене" (орган камсамолу Беларусі — рэд. „Б-са") за 6 травеня сёлета.

Артыкул У. Конана канчаецца гэткім цьверджаньнем:

„Мы — багатыя людзі. Усё, што засталося нам у спадчыну, выклікае словы захапленьня ў нашых суседзяў. Самі Беларусы не хваліліся й ня хваляцца гэтым — ня ў нашым характары. Але нельга ні на хвіліну забывацца на каштоўнасьць таго, што цяпер ёсьць у нашых руках. ,... Самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзьнікла даўно і цудоўна распрацавана', ... ,самая гарманічная і з усіх славянскіх моваў найменш зьмененая'... Гэтак сказаў пра беларускую мову вялікі польскі паэт і наш зямляк Адам Міцкевіч. Ці ведае кожны з нас, што ў беларускім фальклёры, як ні ў адным з усходнеславянскіх, захаваўся самы каштоўны — старажытны — пласт? Ці памятаем, што на беларускай мове былі створаныя самыя дасканалыя для Заходняй Эўропы таго часу законы — Статут Вялікага Княства Літоўскага? Ці ўсьведамляем значэньне подзьвігу Францыска Скарыны — першага ўсходнеславянскага кнігадрукара?

„Мы — багатыя. І гэта складае ня толькі наш гонар. У найпершай і найбольшай ступені — наш абавязак. Абавязак — памятаць, шанаваць, берагчы".

## 30-ГОДЗЬДЗЕ ПАРАФІІ БАІЦ

4-га кастрычніка сёлета споўнілася 30 год ад заснаваньня ў Таронце (Канада) парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Даце гэтай прысьвечаны артыкул у бюлетэні „Царкоўныя Навіны" (№4 за лістапад 1984 г.), які выдаецца царкоўнай радай парафіі.

*Заслужанага беларускага грамадзкага дзеяча, старшыню сэктару Рады БНР, аднаго з заснавальнікаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ды вялікага прыхільніка газэты „Беларус"*

*сп. АЛЯКСАНДРА ЛАШУКА вітаем зь 75-мі ўгодкамі жыцьця,*

*што споўніліся 11-га лістапада сёлета, ды шчыра зычым яму здароўя і ўсякае памыснасьці ў далейшым жыцьці й працы.*

*Галоўная Ўправа БАЗА*
*Рэдакцыя „Беларуса"*

*Шчыра вітаем шматгадовую й адданую працаўніцу на грамадзкай ніве ў Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні, Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва, газэце „Беларус" ды іншых беларускіх арганізацыях Нью Ёрку*

*сп-ню ЯНІНУ КАХАНОЎСКУЮ зь 75-мі ўгодкамі жыцьця,*

*што споўніліся 26 лістапада сёлета, ды ад усяе душы жадаем ёй шмат здароўя і ўсякае памыснасьці ў далейшым жыцьці й працы.*

*Галоўная Ўправа БАЗА*
*Управа БІНіМ*
*Рэдакцыя „Беларуса"*

**ФЭДЭРАЛЬНАЯ РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У АЎСТРАЛІІ**

**ВЫКАНАЛЬНЫ КАМІТЭТ**

**А Б В Е С Т К А**

## 6-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ У АЎСТРАЛІІ

адбудзецца ў Адэляйдзе, Паўдзённая Аўстралія

**ад 5-га да 9-га студзеня 1985 г.**

Усіх сяброў Фэдэральнае Рады, усё беларускае грамадзтва, мясцовых і замежных гасьцей, САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!!!

Закватэраваньне ўсім удзельнікам Сустрэчы будзе забясьпечанае. У гэтай справе зьвяртацца, калі ласка, да
Mr. J. Rollson, Pres. O. C.
2/9 Anglers Court
West Lakes Shore, 5020 S. A., Australia
(Phone, after arrival in Adelaide: /08/491256)

**Праграма Сустрэчы:**

**Сыбота** (5. I.) — Прыбыцьцё й закватэраваньне.

**Нядзеля** (6. I.) — 10:00 гадз. раніцы—пярэдадзень Раства Хрыстовага, багаслужба ў мясцовай Беларускай Праваслаўнай Царкве.
2:00 гадз. п/п — адкрыцьцё Сустрэчы, рэфэрат у залі пры царкве.
7:00 гадз. увечары — вячэрня, супольная Куцьця ў царкоўнай залі.

**Панядзелак** (7. I.) — 10:00 гадз. раніцы — калядная багаслужба.
4:00 гадз. п/п — канцэрт і пачастунак у залі на 5 Ўольтэр Ст., Табэртон.

**Аўторак** (8. I.) — Другі дзень Калядаў, у Байнайтэн парку пікнік на ўвесь дзень.

**Серада** (9. I.) — Трэйці дзень Калядаў ,нарады 6-га зьезду ФРБАА. Пачатак а 10:00 гадз. ўраньні. Парадак дня ўстанаўляе ВК ФР.
Увечары—разьвітальны сяброўскі пачастунак (час будзе паданы на пікніку або раней Арг. К-там).

**Арганізацыйны Камітэт:**

Я Рольсан — старшыня, К. Станкевіч — сакратар, М. Бурнос — сябра.

# ЯГАЙЛА

**(На 550-я ўгодкі сьмерці)**

**(Заканчэньне; пачатак і працяг у №№ 320, 321 і 322)**

Апрача дыпляматычнага ціску з Захаду, гэтаму афармленьню Гарадзельскай вуніі 1413 г. судзейнічалі таксама напружаныя дачыненьні Ягайлы з польскімі магнатамі і асабліва зь гіерархамі польскай каталіцкай царквы. Ягайла ўсё яшчэ ня меў сыноў-спадкаемцаў, што ня толькі выклікала трывогу за лёс спадкаемства на польскім троне, але пагражала й справе далейшага захаваньня пэрсанальнай вуніі Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. Таму і шукаўся нейкі паратунак у падпісаньні акту новай вуніі.

Згаданыя тут фактары і нарадзілі Гарадзельскую вунію 1413 г., якая на першы пагляд сапраўды мела гэтак званы пракаталіцкі й палітычна прапольскі характар. **Пракаталіцкі** таму, што баярскім родам ВКЛ каталіцкага веравызнаньня вунія гэтая забясьпечвала адмысловыя прывілеі, уключна з правам — толькі для іх — займаць дзяржаўныя пасады і ўваходзіць у склад Дзяржаўнай рады — Паноўрады. Гэта, пэўна, было дыскрымінацыяй праваслаўных і, падкрэсьлім, дыскрымінацыяй, у тым ліку, вялікай кагорты ўнукаў і праўнукаў былых вялікіх князёў Гедыміна й Альгерда. Справа аднак у тым, што і ў далейшым вялікі князь Вітаўт ня прытрымліваўся гэткіх рэлігійна-дыскрымінацыйных палажэньняў, а ў 1432 г. дыскрымінацыйныя артыкулы гэтай Гарадзельскай вуніі скасуе сам Ягайла.

Палітычна **прапольскі** характар Гарадзельскай вуніі палягаў у тым, што ў ейным асноўным акце — у супольнай Грамаце Ягайлы й Вітаўта — зноў гаварылася пра „інкарпарацыю" і „аб'яднаньне" Вялікага Княства Літоўскага з „Польскім каралеўствам".

Але й гэта магло быць толькі праформай, бо 12-ты артыкул гэтай Граматы нядвузначна пацьвярджаў далейшае існаванне інстытуту вялікага князя й раўнапраўнасьць абедзьвюх саюзных дзяржаваў. Пасьля сьмерці Вітаўта ці Ягайлы, казаў гэты артыкул, новы вялікі князь і новы польскі кароль будуць абраныя ў паразуменьні й пры ўзаемнай згодзе прэлатаў, паноў і шляхты абедзьвюх дзяржаваў. Такая фармулёўка адкрывала таксама магчымасьць наагул для разрыву і пэрсанальнай вуніі і дзяржаўнага саюзу, што й здарылася ў 1440 г., калі незалежна ад польскіх магнатаў на пасаду вялікага князя ВКЛ быў абраны Казімір Ягайлавіч.

Цікава таксама адзначыць стаўленьне Ягайны да справы каранацыі вялікага князя Вітаўта асобнай каралеўскай каронай, бо гэтая каранацыя азначала поўны разрыў пэрсанальнай вуніі й саюзу Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. Канкрэтна справа каранацыі Вітаўта ўзьнікла ў 1428 г., і яна ў 1429 г. абмяркоўвалася ў Луцку падчас нарады тут Вітаўта, Ягайлы й нямецкага імпэратара Жыгімонта Люксэмбургскага. Тады Ягайла падрымліваў каранацыю Вітаўта, бо ў пытаньні спадкаемства на польскім троне для сваіх сыноў сам меў спрэчкі з магнатамі й царкоўнымі гіерархамі Польшчы. Паводля некаторых зьвестак, на нарадзе ў Луцку Вітаўт, выглядае, ўхіліўся, магчыма, каб не ствараць дадатковых цяжкасьцяў для Ягайлы. Неўзабаве, аднак, ад імпэратара Жыгімонта Люксэмбургскага Вітаўт атрымаў дыпляматычныя лісты, якія паходзілі зь дзяржаўнай канцылярыі Польшчы. З гэтых лістоў вынікала, што польскія магнаты й гіерархі і надалей трактавалі Вялікае Княства Літоўскае як краіну і землі, падпарадкаваныя Польшчы. Але-ж, ведама, што за часоў Вітаўта гэтае Княства найбольш разраслося тэрытарыяльна й дасягнула найбольшай палітычнай магутнасьці. Таму ў 1430 годзе, Вітаўт і вызначыў дзень сваe каранацыі.

Ягайла прыбыў у Вільню для ўдзелу ў чаканых урачыстасьцях каранацыі Вітаўта. Але ў тым-жа 1430 г., праз свайго пасланца да Вітаўта Ягайла быў высунуў і іншы праэкт: ён прапанаваў Вітаўту сваю польскую карону й апякунства над сваімі сынамі. Такая прапанова, якую Вітаўт тады адкінуў, рабілася, пэўна, з тэй мэтай, каб адхіліць каранацыю Вітаўта асобнай каралеўскай каронай і шляхам перадачы Вітаўту польскай кароны захаваць пэрсанальную вунію Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. І гэткая прапанова, выглядае, ня была асабістай справай Ягайлы, а выходзіла ад некаторых польскіх магнатаў і царкоўных гіерархаў.

Прыбыцьцё-ж Ягайлы ў Вільню для ўдзелу ў каранацыйных урачыстасьцях можа сьветчыць пра тое, што сам Ягайла няшмат даражыў гэтай прапановай і ня быў супраць каранацыі Вітаўта. Бо цяжка дапушчаць, каб Ягайла, накіроўваючыся ў Вільню, загадзя мог прадбачваць няўхільны перахоп кароны для Вітаўта на польскім заходнім пагранічччы. Зь Нюрнбэргу з гэтай каронай пасланцы Вітаўта маглі паехаць іншым шляхам, а, падругое, каб ня хуткая сьмерць Вітаўта (27 кастрычніка 1430 г.), была-б замоўленая для яго яшчэ адна карона — як адказ на палітычнае нахабства з боку польскіх саюзьнікаў, якім былі перахоп і расьсячэньне гэтай кароны.

Дык, вынікае, каралём Польшчы Ягайла стаўся не таму, што яго былі прывабілі польская карона й вочы Ядвігі, а ў моц зьбегу нутраных і вонкавапалітычных акалічнасьцяў. Вынікае таксама, што й пасьля Крэўскай вуніі Ягайла не жадаў зла сваёй Бацькаўшчыне — Вялікаму Княству Літоўскаму.

Між іншага, калі верыць паведамленьням польскага гісторыка Яна Длугаша, Ягайла быў простым і дабразычлівым да людзей чалавекам. У адзіноце ён захапляўся трэлямі салаўёў і перад каштоўнай вопраткай аддаваў перавагу палатняным кашулям ды звычайным аўчынным кажушком. Ягайла, як ведама, захаваў і сваю беларускую мову і пажадаў, каб касьцёлы Кракава й Сандаміру, якія ён наведваў, былі аздобленыя фрэскамі беларускіх жывапісцаў.

**П. Залужны**

## СЬВ. ПАМ. АЎГЕН СМАРШЧОК



5-га кастрычніка сёлета раптоўна й нечакана адыйшоў на вечны супакой а. др. Аўген Смаршчок.

Айцец Аўген нарадзіўся 25 верасьня 1914 г. ў мястэчку Зэльва. Па сканчэньні настаўніцкай сэмінарыі ў 1934 г. ды службы ў польскім войску, працуе настаўнікам. З выбухам вайны ў 1939 г. быў змабілізаваны й браў удзел у абароне Варшавы, дзе трапіў у палон да Немцаў. У лягерох для ваенна-палонных у Нямеччыне навязаў лучнасьць зь Беларусамі ў гэтай краіне. У 1940 г. яго зьвальняюць з палону ды накіроўваюць на фабрычную працу ў Бэрлін. Там-жа, пры дапамозе аднаго прыяцеля-Немца, ужо старэйшага чалавека (якога ён і называў „фаты” — тата), Аўген Смаршчок залічыўся ў Бэрлінскі ўнівэрсытэт на псыхалёгію.

Па вайне ўжо, у 1947 г., ён аднаўляе ўнівэрсытэцкія заняткі ў Марбургу, дзе й атрымаў дыплём магістра псыхалёгіі. У тым-жа годзе Епіскап БАПЦ Васіль (Тамашчык) рукапалажыў Аўгена Смаршчка на сьвятара. Айцец Аўген пераяжджае ў Лювэн у Бэльгію, дзе сабралася ладная група студэнтаў-Беларусаў.

Як сьвятар БАПЦ, а. Аўген абслугоўвае ўсе беларускія асяродкі ў Бэльгіі. Арганізаваны ў хуткім часе кампазытарам Міколам Равенскім беларускі студэнцкі хор сьпявае пры ўсіх царкоўных службах, адпраўляных рэгулярна а. Аўгенам у Лювэне.

Ужо як сьвятар, а. Аўген паступае ў 1950 г. на Лювэнскі ўнівэрсытэт, які закончвае ў 1955 г. з тытулам доктара пэдагогікі. Непаседны й заўсёды прагны да навукі, а. Аўген наведвае ў 1965-66 г.г. Вольны Ўнівэрсытэт у Брусэлі, піша працу ў француская мове „Гістарыяграфія й сучасны стан беларускай бібліяграфіі” ды атрымоўвае ступень магістра славістыкі. Гэта яму памагае дастаць становішча прафэсара ў Вышэйшай Школе Перакладчыкаў у Антвэрпэне. Тут Нябожчык і працаваў, спалучаючы свае выклады з рэгулярнаю самаахвярнаю душпастырскаю службай у Бэльгіі, а часамі й за ейнымі межамі — аж да выхаду на пэньсію ў 1980 годзе.

Адразу-ж па атрыманьні пэньсіі ягонай жонкай Зояй, сям'я а. Аўгена перабіраецца ў невялікае мястэчка Гэвэр каля Мэхэлену.. Тут і пражыў а. Аўген да апошняе хвіліны свайго багатага й заўсёды актыўнага жыцьця. Да канца выконваў свой цяжкі душпастырскі абавязак. Да канца духова цярпеў і моцна перажываў раскол, безадказна ўведзены ў БАПЦ.

Паховіны а. Аўгена адбыліся 13-га кастрычніка. Сьвятая Літургія й паніхіда былі адпраўленыя ў мясцовым касьцеле ў Гэвэры. Вялікая сьвятыня была перапоўнена людзьмі, што прыйшлі, каб разьвітацца са сваім сьвятаром, сваім прыяцелем, аддаць яму апошнюю пашану. З гэтага відаць, які папулярны быў а. Аўген. Апрача ўсіх Беларусаў з Бэльгіі, сабраліся тут ягоныя прыяцелі Украінцы, Бэльгійцы — Флямандцы й Валёнцы — Расейцы, прадстаўнікі Беларусаў з Англіі, Нямеччыны й Канады.

Сьвятая Літургія была адпраўленая а. Абабуркам, а пахавальны абрад быў выкананы а. Канавалавам у суправаджэньні пяцёх сьвятароў: Беларусаў, Флямандцаў і Валёнца. Вельмі прыгожа сьпяваў царкоўны хор з Брусэлі..

Цела Нябожчыка было перанесенае на вечны супачынак на мясцовы магільнік. Пасьля адпяваньня а. Абабурка сказаў над адкрытай магілай цёплую прамову, др. Барыс Рагуля, што спэцыяльна прыбыў з Канады, у кароткіх словах навечна разьвітаўся з а. Аўгенам, як зь сябрам і прыяцелем.

Пасьля паховінаў усе Беларусы й шмат блізкіх знаёмых а. Аўгена былі запрошаня на сьціплы памінальны пачастунак. Тут была нагода, хоць у сумных абставінах, спаткацца ўсім Беларусам з Бэльгіі ды зь землякамі з-за мяжы. Пры гэтай-жа нагодзе, паводля волі Нябожчыка, і на прапанову ягонае жонкі Зоі, быў праведзены збор складак, заміж вянка на магілу, на фонд Беларускае Бібліятэкі й Музэю імя Франьцішка Скарыны ў Лёндане. Тут яшчэ раз др. Рагуля з Канады й сп. Янка Міхалюк з Ангельшчыны падзяліліся сваймі ўспамінамі пра а. Аўгена ды выказалі самыя шчырыя спачуваньні сп-ні Зоі й асірацелым сыном Андрэю й Пятру. Айцец Аляксандар Надсон зь Лёндану ў прачулых і кранальных словах успомніў свае спатканьні з а. Аўгенам, як з братам у Хрысьце, ды выказаў сям'і Нябожчыка духовую падтрымку й хрысьціянскае суцяшэньне.

Сьмерць а. Аўгена Смаршчка — страта вялікая для ўсіх Беларусаў, але найбольшая для Беларусаў у Бэльгіі. Айцец Аўген, як сьвятар, быў у сталым асабістым кантакце з кожным з нас, а як даўгагадовы старшыня Саюзу Беларусаў у Бэльгіі, быў лучвом паміж нас усіх. Усе супольныя спатканьні, нацыянальныя сьвяткаваньні й імпрэзы былі вынікам ягонае ініцыятывы. Ён-жа найчасьцей і прадстаўляў нашую групу перад іншымі нацыянальнымі арганізацыямі. Таму, пакінуўшы перадчасна гэты сьвет, а. Аўген асіраціў ня толькі сваю сямейку, ня толькі сваіх вернікаў на правінцыі, але і ўсю беларускую грамаду ў Бэльгіі.

Не давялося яму дачакацца ўціхаміраньня закалоту ў БАПЦ, які ён так моцна перажываў. Як ужо шмат іншым нашым суродзічам, гэтак і яму Бог ня судзіў дачакацца часу, каб пабачыць сваю родную Беларусь вольнай і незалежнай. Лёг і спачыў навечна далёка ад роднага краю, у чужой зямельцы. Хай-жа яна будзе яму лёгкім пухам.

**Я. Жучка і А. Арэшка**

## ПАНІХІДА ПА АЙЦУ СМАРШЧКУ

14 кастрычніка 1984 г. у парафіі Сьв. Духа БАПЦ у Іст Дэтройце (ЗША) была адслужаная поўная паніхіда па перадчасна памерлым сьв. пам. а. Аўгену Смаршчку, адданаму сьвятару БАПЦ і запраўдному патрыёту Беларусі. Паніхіду адправіў Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскап Мікалай, Першагіерарх БАПЦ, пасьля сьв. Літургіі. На паніхідзе былі ўсе прыхаджане й госьці, у тым ліку асабістыя сябры Нябожчыка з часоў ягонае ўнівэрсытэцкае навукі.

Удзельнікі паніхіды з глыбокім смуткам прынялі вестку аб сьмерці а. Аўгена й горача маліліся за супакой ягонае душы.

### СПАЧУВАНЬНЕ

Сябры і настаяцелі Рады Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Вялікай Брытаніі з глыбокім жалем і смуткам выражаюць найсардэчнейшыя і найшчырэйшыя спачуваньні асірацелай Матушцы Зоі зь сямейкай.

Хай лёгкім пухам Яму будзе бэльгійская зямелька на Вечную Памяць!

**Мітр. Прт. а. Янка Абабурка**
**Прт. а. Ян Пекарскі**
**Рада БАПЦ у Вялікай Брытаніі**

## ДР. АЛЯКСАНДАР ОРСА

**(На 25-я ўгодкі сьмерці)**

2 лістапада 1959 г. адыйшоў на вечны супачынак др. Аляксандар Орса, пакінуўшы ў вялікім смутку сям'ю ды ўсю беларускую эміграцыю.

Далёка ад свае дарагое бацькаўшчыны й роднае Наваградчыны давялося яму скончыць жыцьцё, якое ён прысьвяціў поўнасьцяй беларускаму народу ў змаганьні за лепшую долю й законныя правы свайго роднага краю.

Сягоньня, у рэтраспэктыве 25 гадоў ад сьмерці др. Орсы, уся беларуская эміграцыя выразьней бачыць ягоную самаахвярную працу, ягонае мудрае слова ды ягоны асабісты высокі маральны аўтарытэт.

Ад першых гадоў свайго сьведамага жыцьця сьв. пам. Аляксандар Орса паставіў сабе за мэту служыць свайму народу ў ягоным змаганьні за незалежнасьць, і якраз *гэтая ідэя сталася асноўным зьместам ягонага жыцьця.*

Др. Орсу давялося працаваць у часе няйвялікшага нацыянальнага ўціску ў былой Польшчы. Ён дасканала ведаў шавіністычнае настаўленьне польскіх уладаў, якія, незважаючы на міжнародныя ўмовы аб ахове правоў нацыянальных меншыняў, вялі жорсткую асыміляцыйную палітыку ў дачыненьні да Беларусаў.

У гэткую вось атмасфэру вярнуўся ў родны Навагрудак з Чэхаславаччыны малады настаўнік Аляксандар Орса, закончыўшы ў Празе сваю ўнівэрсытэцкую навуку. Працу пачаў як выкладчык у наваградзкай Беларускай Гімназіі. У гэтым часе Палякі імкнуліся ўсімі спосабамі ліквідаваць гэтую сярэднюю беларускую школу, у якой нацыянальная справа стаяла на высокім узроўні. Усе выявы беларускае нацыянальнае актыўнасьці трактаваліся польскімі ўладамі як камуністычная дзейнасьць, а настаўнікі былі пад сталым наглядам польскай дэфэнзывы. Ясная рэч, і маладому настаўніку Аляксандру Орсу рабіліся ўсе перашкоды ў ягонай працы, але ён ня падаў духам і далей вёў працу ўсьведамленьня вучняў гімназіі й беларускага сялянства.

Вучні Беларускай Гімназіі пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў праводзілі таксама культурна-асьветную працу, даючы канцэрты й паказы беларускіх п'есаў там, дзе можна было дастаць дазвол ад польскіх уладаў. Гэтак званы „трыюмвірат” настаўнікаў у складзе дырэктара Івана Цеханоўскага, папярэдняга дырэктара Пятра Скрабца й настаўніка Аляксандра Орсы быў душою ўсяе культурнае й нацыянальнае працы для Беларусаў Наваградка й ваколіцаў. Дапаўняў гэты „трыюмвірат” настаўнік музыкі й сьпеву кампазытар Антон Валынчык, які паставіў хор Гімназіі на вельмі высокі мастацкі ўзровень. Дзякуючы адданай працы гэтых настаўнікаў, выпускнікі Гімназіі, атрымаўшы глыбака-нацыянальнае ўзгадаваньне, пайшлі вучыцца далей у розныя ўнівэрсытэты Польшчы, Францыі, Бэльгіі й Нямеччыны.

Незважаючы на розныя перашкоды з боку *польскіх* адміністрацыйных уладаў, іхны фінансавы ціск, Беларуская Гімназія ў Навагрудку ўмацоўвалася, расла, вяла культурна-асьветную працу, а нават стварыла будаўляны камітэт на пабудову новага гмаху для гімназіі. Душою й галоўным ініцыятарам гэтага праекту быў сьв.. пам. А. Орса, які разам зь іншымі настаўнікамі, бацькамі вучняў ды самымі вучнямі павёў вялікую акцыю на збор матар'яльных сродкаў. Усім удзельнікам давялося недаспаць шмат ночаў, перанесьці масу прыкрасьцяў ды расчараваньняў, але іхныя ахвярныя намаганьні не пайшлі надарма: як на дражджох рос новы прыгожы будынак, кіпела праца, а настаўнікі й вучні, закасаўшы рукавы, у вольны ад навукі час працавалі пры пабудове.

Нажаль, дзеля нястачы матар'яльных сродкаў не ўдалося давесьці будаўніцтва да канца; пазьней польскія ўлады закончылі гэты гмах. Будынак стаіць і цяпер, як помнік вялікіх намаганьняў беларускага грамадзтва Наваградчыны пад кіраўніцтвам сьв. пам. Аляксандра Орсы. І ўсё гэта было зроблена самаахвярна, у пакоры духа, ніхто ня меў ніякіх асабістых хворых амбіцыяў, ніякіх прэтэнсіяў, бо найвышэйшай мэтаю было дабро беларускае справы.

Цяжкія гады настаўніцкай працы ў часе савецкай і нямецкай улады на нашых землях, жахлівыя ўмовы гэтай працы не зламалі духу настаўніка-ўзгадавальніка моладзі Аляксандра Орсы. Ён і надалей самаахвярна працаваў сярод вучняў, нягледзячы на тое, што адзін неабдуманы крок мог прывесьці да трагічнай сытуацыі.

Ваенная завіруха Другой сусьветнай вайны закінула др. А. Орсу зь сям'ёй у Нямеччыну. Але й тут ён таксама знайшоў шмат энэргіі й сілы волі, каб зарганізаваць беларускую гімназію, у якой вучылася моладзь, здабываючы асьвету й выхоўваючыся ў нацыянальна-беларускім духу на служэньне Бацькаўшчыне.

Сягоньня ўва ўсіх амаль асяродках беларускай эміграцыі ў ЗША ды ў іншых краінах сьвету адчуваецца дух і навука беларускага патрыёта і настаўніка др. Аляксандра Орсы. Ён пакінуў свой сьветлы адбітак у душы шмат якіх беларускіх інтэлігентаў, якія пайшлі па ягонай дарозе і цяпер самаахвярна працуюць на беларускай ніве, вядучы далей ягоную працу, падтрымваючы зьніч, што быў запалены ў іх сэрцах іхным вялікім настаўнікам. Трэба спадзявацца, што гэтае полымя ніколі не патухне, вечна будзе гарэць і асьвятляць нашыя цярністыя дарогі ў змаганьні за незалежнасьць..

Сьв. пам. Аляксандар Орса выканаў свой сьвяты абавязак перад Бацькаўшчынай і народам, ён здабыў сабе вялікі маральны аўтарытэт сярод Беларусаў як удома на Беларусі, гэтак і тут, на эміграцыі. Няхай ягонае жыцьцё будзе прыкладам і натхненьнем для пакаленьняў новых змагароў у іхнай барацьбе за ідэалы, якія былі пуцяводнай зоркаю для Нябожчыка.

17 верасьня 1984 г.

**В. П.**

## ДА СПРАВЫ ЗАБОЙСТВА ПРАФ. В. ІВАНОЎСКАГА

Мінула ўжо больш за сорак гадоў ад часу забойства ў Менску прафэсара Вацлава Іваноўскага — выдатнага дзеяча на ніве беларускага адраджэньня. Аднак ягоная сьмерць усё яшчэ не перастала быць загадкай. Савецкую вэрсію забойства — што Іваноўскага, быццам-бы, забілі партызаны — аспрэчваў ужо Язэп Малецкі ў сваіх успамінах „Пад знакам Пагоні” (Таронта, 1976). Малецкі напісаў, што забілі прафэсара агенты СД, якія сымулявалі партызанаў. Слабы бок гэтага цьверджаньня ў тым, што яно слаба абгрунтаванае. Праўда, даносы на Іваноўскага, пра якія пісаў Малецкі, былі немалаважнай акалічнасьцяй, аднак няма пэўнасьці, ці былі яны рашальным дзейнікам, паколькі ня кожны донос выкарыстоўваўся нямецкай службай бясьпекі для зьнішчэньня чалавека.

У гэтым дачыненьні на асаблівую ўвагу заслугоўваюць успаміны Аўгена Калубовіча, апублікаваныя ў „Беларускай Думцы” (№ 27-28, 1983 г.). Забойства пад вокам вартаўнікоў эвакуаванага ў Менск смаленскага СД, — піша Калубовіч, — выключае магчымасьць савецкай вэрсіі. Засьцярогу Калубовіча наглядна падмацоўваюць істотныя разыходжаньні паміж фактычным ды прадстаўленым Новікавам шляхам пралёткі, у якой ехаў Іваноўскі ад гарадзкое ўправы да месца трагэдыі.

Дарэчы, разыходжаньняў, якія датычылі да акалічнасьцяў сьмерці праф. Іваноўскага было больш, прычым выступалі яны здаўна паміж савецкімі аўтарамі. Апрача ведамае „дакумэнтальнае” аповесьці Івана Новікава „Дарогі скрыжаваліся ў Мінску”, у гэтай-жа справе выказваўся таксама У. Майданюк — заступнік міністра нутраных справаў Беларускай ССР, інакш кажучы, асоба вельмі кампэтэнтная (гл. ягоны артыкул „На варце заваёў Кастрычніка, зьмешчаны ў „Полымі” № 11, 1978, б. 189). Трэба спыніцца над некаторымі цьверджаньнямі гэтых аўтараў.

Паводля Новікава, выканаўцам забойства праф. Іваноўскага былі два партызаны — Саша Камінскі й Жэня Кунцэвіч. Майданюк-жа гаворыць толькі пра аднаго Камінскага. Можам аднак абмінуць гэтую „недакладнасьць”, *паколькі* Майданюк прысьвяціў свой артыкул міліцыянерам, а Кунцэвіч міліцыянерам ня быў.

Большую цікавасьць выклікае тое, што паводля Майданюка, камандаваньне партызанскай групы выдала на Іваноўскага сьмяротны прысуд, тымчасам як Новікаў піша, што камандаваньне дало загад схапіць прафэсара жывым, на што былі распрацаваныя тры варыянты апэрацыі.

Аднак найбольш цікавая іншая „дробязь”. Паводля Новікава, Саша й Жэня напалі на пралётку, выцягнулі зь яе Іваноўскага, павалілі на брук, пасьля чаго Жэня стрэліў два разы ў сьпіну прафэсара, а Саша „для пэўнасьці” яшчэ раз — у галаву. Затое Майданюк падае даслоўна, што „Камінскі ўскочыў у брычку, у якой ехаў Іваноўскі, і стрэлам ва ўпор забіў здрадніка”.

Аб чым сьветчаць гэтыя разыходжаньні? Перш-наперш аб тым, што абодвы савецкія аўтары не карысталіся дакумэнтацыяй. Кожны зь іх толькі „ўстанавіў” акалічнасьці забойства так, як яму было выгадна. У гэты вяночак „дакумэнтальных” выдумак можна ўплесьці яшчэ адну прыгожую кветку.

Вось у 1970 г. зьявіўся ў Менску зборнік артыкулаў, фэльетонаў і падобнай „творчасьці” пад загалоўкам „На задворках”. Там-жа зьмешчаны артыкул партызана Р. Мурашкі „Партрэт лакеяў”, у якім гэты аўтар ужо ўвосень 1943 г. паведамляў пра сьмерць Іваноўскага (гл. б. 139), тымчасам як той загінуў толькі на пачатку сьнежня 1943 году. Гэткіх „фактаў” можна падаць больш, хоць даволі й гэтых.

Прыведзеныя тут разыходжаньні ў савецкіх крыніцах дапаўняюць тое, што напісаў Калубовіч, і адначасна даюць дадатковае абгрунтаваньне ягонаму погляду, што сьмерць праф. Іваноўскага ня была справай партызанаў. Калі-б была яна справай партызанскай, былі-б перш за ўсё адпаведныя архіўныя дакумэнты і, пасьлядоўна, ня было-б разыходжаньняў, якія толькі кампрамітуюць названых савецкіх аўтараў. Забойства Іваноўскага нямецкая прапаганда шырака выкарыстоўвала для сваіх мэтаў, і можна дзіву давацца, як лёгка гэтую нямецкую правакацыю „прагльнулі” па вайне менскія органы.

Аб тым, што вэрсія пра забойства Іваноўскага партызанамі была дутая, добра ведаў В. Раманоўскі, які закончыў сваіх „Саўдзельнікаў у злачынствах” у тым самым часе што й Новікаў свае „Дарогі”. Аднак ніякіх архіўных матар'ялаў Раманоўскі не знайшоў, у выніку чаго не спакусіўся на прадстаўленьне фікцыйных акалічнасьцяў сьмерці Іваноўскага, а паўтарыў стэрэатыпную вэрсію: „савецкія патрыёты пакаралі . . . бургамістра горадуМенску Іваноўскага („Саўдзельнікі”, 1964, б. 143).

Хто былі запраўдныя забойцы праф. Іваноўскага — пытаньне не найважнейшае. Маглі імі быць і Камінскі з Кунцэвічам, якія, як піша Новікаў, нават ня ведалі, як выглядае іхная ахвяра. Шмат важнейшая справа — гэта выкрыцьцё ініцыятараў і рэжысэраў гэтага ганебнага чыну, а таксама матываў, якімі яны кіраваліся. У гэтай справе нават дробныя дэталі могуць мець істотнае значаньне, гэткія як, прыкладам, роля Міхася Івашкевіча й акалічнасьці ягонае загадкавае гібелі. Пашукайма іх у сваёй памяці.

**Г.Б.**

# BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11432. Price per copy: $1.25, subscription $12.00 per year


## DIG UP YOUR ROOTS

At a recent practice session of Vasilok, the internationally reknown Byelorussian dance troupe, the members participated in a discussion about the Slutsak (Slucak) Uprising of 1920. The presentation was unique in that it was conducted totally by members of the group who put their knowledge of the memorialized event together and came up with the significance of that piece of history for us as Byelorussians. More importantly, it sparked a discussion about our purpose for perpetuating the Byelorussian culture.

At this time, one of our members remarked, "I'm only youth. What can I do?" I soon began to reflect upon my own experience within the youth movement. Seemingly such a short while ago I was entering the youth and wondering about this same question. I couldn't quite understand what being Byelorussian meant to me.

Well, almost 15 years have passed since then and I have many reflections to share in future articles. However, my purpose here is to offer an introductory suggestion, to answer the above question, that can benefit all Byelorussians and especially youth. Very simply, any time anyone might ask you about your ethnic background, you must take the time to explain to them where your parents and grandparents came from. At least once, every Byelorussian-American has shied away from, or not bothered explaining the homeland of his or her ancestors, which as we all know is either an unknown entity or synonymous with Russia to most people.

By describing your country to others you can accomplish several things. First, you are educating someone who otherwise would continue being unknowledgeable about an important point. Second, every time you mention Byelorussia you will kindle some pride within you about being from this country which has its own rich heritage. Last, but by no means least, you are perpetuating your heritage and that in itself is accomplishing a great deal. One of my own experiences serves to illustrate this point very well.

I am currently completing my medical studies in Brooklyn. Prior to this I spent the first two years of my education in Tampico, Mexico. This port city on the Gulf Coast is not exactly a hotbed of Byelorussian cultural activity. In fact, I was probably the only Byelorussian within a 1,000 mile radius. However, anytime any Mexican asked where my parents came from besides America, I explained to them in my feeble Spanish exactly where and what Byelorussia was. Originally they would make the same mistake made in America of calling Byelorussia, Russia, but thanks to me several hundred, maybe several thousand people in Tampico, Mexico now know Byelorussia exists.

That was probably the sole extent of my Byelorussian activity for two years but of even that I am very proud. Therefore, you now see that you can do something very positive without tremendous efforts. It honestly makes a difference. If you feel you might not know exactly what to say about Byelorussia, I further suggest a thorough, but succinct piece about our country, most recently run in the inaugural issue of **The Belarus News**.

**George Kipel**

## SLAVIC HERITAGE FESTIVAL IN NEW YORK CITY

This year the annual Slavic Ethnic Heritage Festival was held from October 29th to November 5th. The Festival was sponsored by the Slavic Heritage Council of America, Inc. The organization is active in the New York area and consists of representatives from nine Slavic nationalities. They are: Bulgarian, Byelorussian, Macedonian, Polish, Russian, Serbian, Slovak, Slovenian and Ukrainian.

In spite of the animosity among the various Slavic groups carried over from the old countries, the Council has the support of a wide range of Slavic organizations which also include the Croatians and Czechs. Sixty-four groups take part in its program, although some are more active than others.

This year the Festival coincided with the annual convention of the American Association for the Advancement of Slavic Studies. The program of the Slavic Ethnic Heritage Festival was printed in a booklet entitled "Slavic New York," published by the local organizers of the AAASS convention.

As stated in an article about Slavs and the Slavic Heritage Council of America, printed on November 4th in **The New York Times**, "the activities of the week pointed up both the influence of the varied ethnic groups and its importance in world affairs. There are estimated to be more than 1.5 million people of Slavic descent living in the New York metropolitan area."

The Fine Arts Exhibit was held from October 29th to November 5th at the Ukrainian Institute of America. It contained mostly impressionistic and abstract works by various artists. Byelorussian artists that exhibited their works were St. Tamara, Irene Rahalevich-Dutko and Halina Rusak.

The Folk Dance Festival took place on Sunday, November 4th at the Hunter College Playhouse. It was a magnificent display of Slavic dances and costumes. The Vasilok Byelorussian Folk Dance Group, under the direction of Dr. Alla Orsa-Romano, performed Karahod, Polka Janka and Lavonikha. At the party that followed the festival, members of the various groups taught each other their dances.

The closing evening on November 5th was a cultural as well as a political event. Proclamations were read from the Mayor of New York, Edward Koch, the Governor of New York, Mario Cuomo, and the Manhattan Borough President, Andrew Stein. A letter and a telegram were received and read from President Ronald Reagan.

There were also speeches from various Slavic leaders, including Dr. Vitaut Kipel, President of the Byelorussian Institute of Arts and Sciences. He stated among other things that usually historical Pan-Slavism is associated with the nationalism of the dominating group. Mr. Kipel further stated that the Slavic Heritage Council of America is the only Slavic organization in which all the Slavic nationalities are equal and therefore they have worked together successfully for the last seven years in New York City. Thus, Slavic cooperation can only be achieved if all the Slavic nationalities respect each other as separate ethnic groups here in the United States and in their homelands. Each one of them has the right to choose its own destiny.

Thanks are in order to our artists and the dancers of Vasilok. Special thanks goes to Messrs. A. Shukieloyts, V. Tur and V. Tumash as well as to many of those who participated in the raffle and sent contributions. All of us made the festival a success and thus represented the Byelorussian Community as a vital and active member in the activities of the Slavic Heritage Council of America.

**Raisa Stankievič**

## VASILOK INVADES VERMONT

The New York/New Jersey Byelorussian Dance Group decided to subject their legs to a different type of exercise for the Thanksgiving Holiday Weekend. We bravely undertook a ski trip to Killington, Vermont. Nine individuals ventured forth, ranging from pre-beginners to those who could ski the expert trails knowing that they would eventually reach the bottom.

After a long ride, six hours for the New York crowd, and nine hours for the New Jersey group, we both reached our weekend home, a rented chalet, around 1 AM, Thursday morning. It took us very little time to become comfortable and make the house look lived in. After seeing just how comfy we can get, I would never rent to us.

The house soon retaliated by running out of water around 3 AM. At a reasonable hour we called the realtor who sent over his handyman. The next dilemma of the weekend was trying to stuff a turkey that was still half frozen. No easy trick! The kitchen crew had to call one of our musclemen to the rescue.

We danced, sang, tried a seance, and of course played cards. It's frustrating to play solitaire and then find out the deck has forty-five cards. We also had our old stand-by, charades, ready. I'd been scouring the dictionary for weeks before the trip and had compiled quite a list. Try doing "Tierra del Fuego."

Oh yes, by-the-way, the skiing was great!

**Vera Zaprudnik**

## UPDATE

### OSI AND THE BYELORUSSIAN AMERICAN COMMUNITY

A small group of Ukrainian lawyers gathered at the White House on October 19th, 1984 for a briefing by mid-level and senior government officials. At the invitation of Linas Kojelis, Associate Director, Office of Public Liaison, a representative of the Byelorussian-American Association was also in attendance.

Spokespersons from the departments of State and Justice were queried on, amongst other things, the apparent inconsistency between State Department warnings of a "Soviet disinformation offensive"[1] and the Justice Department's Office of Special Investigation's continued reliance on Soviet supplied evidence in their denaturalization proceedings. While both Justice and State handled such inquiries with not atypical evasion and diplomacy, they also pledged to monitor events in this area and when and if appropriate to recommend changes in U.S. policy.

Other issues raised by the lawyers were the Reagan administration's efforts on behalf of human rights activists in eastern Europe and recent reports that some hostile foreign governments are subsidizing the international drug trade, much of which finds its way across our borders.

On October 26th, 1984, representatives of the Byelorussian-American Association attended an inter-ethnic conference sponsored by Americans For Due Process[2] at the Estonian community center in New York City.

The purpose of the conference was to exchange the most recent information respecting Nazi war criminal prosecutions in America. Ivars Berzins and S. Paul Zumbakis, Esqs., both of whom have extensive experience and expertise in representing alleged war criminals and collaborators were the guest speakers at the conference.

For detailed case-by-case information on OSI proceedings please write (and contribute to) Americans For Due Process, P.O. Box 85, Woodhaven, New York 11421 or call (516) 671-7573.

[1] Special Report # 88, September 1981 by the U.S. State Department.

[2] Americans For Due Process is a public interest group which monitors cases prosecuted by OSI.

## DATELINE — LONDON

The Anglo-Byelorussian Society is sponsoring the Nineteenth Annual Lecture Course on Byelorussian Culture. The 1984-85 series consists of six lectures, spanning from November 1984 to June 1985 and will take place at The Francis Skaryna Byelorussian Library in London.

The Lecture topics include "Byelorussian-Ukrainian literary relations before 1917," "Elements of Yiddish origin in the vocabulary of Byelorussian dialects," "Farming in 16th-century Byelorussia," "Faith and ritual in the Orthodox Church in 16th-17th-century Byelorussia," "Byelorussian newspapers in Poland between the wars," and "Agreement with the proposition 'pa' in Byelorussian."

Further information can be obtained by writing to Chairman J. Dingley at The Francis Skaryna Library, 39 Holden Road, London, N.12., England.

## THE BELARUS NEWS

The "Byelorussian American Information Service" has begun publication of **The Belarus News**, the first issue dated October-November 1984. This magazine, planned to be published four times a year, aims to provide "subjects of interest to the American reader interested in the Byelorussian people, their heritage, culture, literature, hopes and expectations."

The magazine contains current news items, informative articles, letters to the editor, and a section entitled "Humor." The annual subscription fee is $5 and the mailing address is P.O. Box 317, Hereford, Maryland 21111.

## BOOK SHELF

**Soviet Nationality Survey.** Published ten times annually by Suchasnist Publishers, London.

The first issue of **Soviet Nationality Survey**, Vol. 1, No. 1, was released in January, 1984. That issue contained "A Word of Welcome," which describes the aim of this publication.

"The West long failed to notice what every Soviet leader since Lenin has known — that the Union of Soviet Socialist Republics has a nationality problem. The USSR and Russia, so the thinking went, were one and the same.

"The last two decades have witnessed a substantial change in Western attitudes. Although misconceptions still abound, the Soviet 'nationality question' is now acknowledged to be both important and far from answered, and the non-Russians have become a legitimate subject of inquiry. But one thing hasn't changed. Soviet nationalities still don't receive the attention they deserve.

"Enter **Soviet Nationality Survey**. Our immediate goal is to serve as a newsletter which will provide concise and topical information about the 'other Russia' — its people, its problems, its relationship to Russians. Our long-term goal is to illuminate broad trends and serve as a reference guide to the Soviet nationalities. Our hope is to become an indispensible source of news for specialists and non-specialists."

This newsletter has already published several articles about Byelorussia, with topics covering industrial construction, resolutions, cultural heritage, counter-propaganda, and Byelorussian language. It could prove to be a valuable publication for providing current news about our homeland. The subscription rate is $30 and the mailing address is **Soviet Nationality Survey**, Suchasnist Publishers, 15 Sherringham Avenue, London, England, N17 9RS.

## NEW JERSEY CHRISTMAS TREE DECORATION PROJECT

The following news item was received from the New Jersey State Council on the Arts.

"This December the official New Jersey Christmas tree, located in the Executive Office of the State House in Trenton, will be decorated with ornaments handcrafted by members of the state's various Eastern European communities. This will be the first such 'ethnic' tree and will inaugurate a five-year joint project of the New Jersey State council on the Arts and the Office of Ethnic Affairs, both divisions within the Department of State. Each year, these agencies will solicit Christmas ornaments from members of ethnic communities from various regions of the world.

"Ornaments from this year's tree will be sought from some 18 Eastern European groups including: Albanian, Armenian, Bulgarian, Croatian, Hungarian, Estonian, Latvian, Macedonian, Lithuanian, Polish, Rumanian, Polish, Slovenian, Ukrainian, Byelorussian and Czech. Since the ancestral homelands of these ethnic groups are presently under Communist control where Christmas celebrations are discouraged and repressed, the preservation and recognition of their Christmas traditions is especially important.

"The Christmas tree project will culminate in a public tree-lighting ceremony by Governor Thomas H. Kean the week before Christmas. Representatives of ethnic groups will attend in traditional dress and a children's choir will sing.

"Members of ethnic groups to be featured this year are encouraged to submit ornaments to Hortense Green, Crafts Coordinator, The New Jersey State Council on the Arts, 109 West State Street, Trenton, NJ 08625, now through November 20th. Ornaments may be up to six inches in diameter and must be made of lightweight materials such as paper, straw and glass. They must be equipped with strong loops or hooks for hanging and must reflect or be influenced by ethnic folk traditions. No precious metals may be included in ornament. Each craftsperson may submit up to 10 ornaments.

"Ornaments will be judged for inclusion on the Christmas tree by a panel composed of Secretary of State Jane Burgio, NJSCA Executive Director Jeffrey A. Kesper, Office of Ethnic Affairs Coordinator Juhan Simonson, Crafts Coordinator Hortense Green, and Folk Arts Coordinator Rita Moonsammy. All entries will become property of the State of New Jersey."

For any further information please contact Juhan Simonson at (609) 984-7145.

## LOVE SAVES US ALL

*One day a little spider*
*Upon waking from his nap*
*Found himself quite hungry*
*So decided to set his trap.*

*His web, he began spinning*
*Thinking of a would be prey,*
*As big as he'd make his web*
*It would take him all of the day.*

*His web stretched over miles*
*This mighty little spider of mine*
*With patience, he lay in waiting*
*For what'd come into his bind.*

*With big brown eyes he peered*
*Out from 'neath his hide-away*
*When he spotted a little lady bug*
*Heading straight his way.*

*The spotted little lady bug*
*Drew closer step by step*
*She knew not what lay before her*
*So ahead she bravely crept.*

*Before her lay a little twig*
*To her 'twas big as a tree*
*She took a step upon it*
*With dismay, she was no longer free.*

*You see, my smart little spider*
*Had used it as one of his points*
*To anchor down his sticky web*
*Where the bug was stuck by her joints.*

*She squirmed and wriggled*
*Which to her was of no use*
*Because the more she moved —*
*The web got tighter, not loose.*

*The black little spider*
*Was now ready for his kill.*
*He got close to the captured*
*Then suddenly he kept quite still.*

*The look of desperation*
*Was written all over her face*
*She knew what would be coming*
*And she'd have to get out of that place.*

*At first pity had filled his heart*
*Then he took a better look*
*Now he realized it was he,*
*Not she, that had been hooked.*

*He helped her out of his web*
*And apologized for this mess*
*Then took her up to his den*
*And invited her to be his guest.*

*You see, she gladly accepted*
*For she had fallen in love too*
*Now they spend their days watching the sunset*
*The horizon and its beautiful hue.*

*1975*

*Vera Zaprudnik*

### NO EXPECTATIONS

In my hole, wasting away
Day after day after
Day after day
Can't tell one apart
From the rest
They all seem to run the same way.

Morning comes as it did before
Bringing no less
Bringing no more
I go thru the motions
Just part of the scheme
That someone else holds
As someone else deems
I don't go up, and
I don't go down
I just seem to spin around

No building from present
No brick from the past
Just pebbles, falling
At random
To rest

A seaside pebble, washed smooth
By the tide
Moving, but going no where
With nothing to show
With nothing to hide.

1983

Vera Zaprudnik

### *TWENTY-FIVE*

*Twenty-five. A turning point?*
*Straight in line, or out of joint?*
*Concrete, stable, a mass of rock*
*Or just a sheep among the flock?*
*Ways decided, plans laid out*
*Or just a jigsaw filled with doubt?*
*Some blocks fit, just as was deigned*
*But most of the cards, still in your hand!*

*1982*

*Vera Zaprudnik*

**WARNING:** Failure to contribute articles to **Bielarus** may prove hazardous to your health! **Editor**